Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 35 (86). | Вільня, Субота 16 Красавіка 1927 г. | Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Падпішчыкам, чытачом і усяму беларускаму грамадзянству жадаем Вясёлых Сьвят!

## Палітыка палянізацыі.

Далей мы падаён два дакуманты, адзін з іх, гэта—заява Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і другі—адказ міністра асьветы п. Дабруцкага.

Калі разглядзець гэтыя дакумэнты, дык адразу можна заўважыць адсутнасьць добрай волі ў п. міністра — прыхільнасьці да справы і шчыра трактаваць беларускае школьніцтва.

Вынікам Інстытуцкага звароту да пана міністра ёсьць чатыры пункты, якія стаяць на перашкодзе да зьдзейсьненьня мэтаў Інстытуту аб заснаваньні беларускага прыватнага школьніцтва. Аднак-жа п. міністар з усіх гэтых перашкодных пунктаў нашоў магчымым адхіліць толькі адзін і то гэтакі, які бязумоўна зьяўляўся найменш перашкодным. Дый ясна, калі сялянства бярэ на сваё ўтрыманьне ўсю школу, дык і 20 зл. аплатаў не маглі-бы ўстрымаць справы. Але-ж тут ходзіць аб нечым зусім іншым. Гэтае іншае вось што: калі Інстытут даводзіць, што не дапускаюцца да школы кваліфікаваныя вучыцялі, дык п. міністар адказвае, што Канстытуцыя абавязвае школьныя ўлады вымагаць поўных кваліфікацыяў, а калі Інстытут просіць арганізаваць адпаведныя курсы, каб беларускія вучыцялі маглі давучыць польскую мову, дык пан міністар на гэта нічога не адказаў. І ў гэтым відаць тая адсутнасьць волі і прыхільнасьці да справы беларускага школьніцтва, аб якіх гаварылася на пачатку нашага артыкулу. Бо пан міністар ня хоча прызнаць поўнымі тых кваліфікацыяў, якія мае беларускае вучыцяльства і ня выяўляе, як відаць з адказу, ніякага жаданьня. Гэта мы лічы найвялікшаю перашкодаю на шляху арганізацыі беларускага школьніцтва.

Інстытут просіць упрасьціць фармальнасьці на складаньне заяваў аб школах, лічачы тыя фармальнасьці, гэтак як яны абстаўляны цяпер немагчымымі для выкананьня, але-ж п. міністар і на гэта таксама нічога аблягчаючага ня ўчыніў, а проста канстатаваў факт, што трэба тыя фармальнасьці, якія ўведзены перадмаёвымі эндэцкімі ўрадамі ў мэтах скасаваньня бебеларускага школьніцтва выконваць. Калі гаварыць аб іх выкананьні, дык трэба адзначыць, што можа не на толькі зьяўляюцца цяжкімі самыя ўставы, як воля тых людзей, якія іх ажыцяўляюць. Заўсёды калі ня будзе пажаданьня ў школьных уладаў, дык і заўсёды будзе не прыдатнасьць і неадпаведнасьць тых доказаў, якія будзе мець Беларус пры стараньні аб родную школу. І вось, замест таго, каб выказаць хоць маленькае імкненьне да ўхіленьня гэтага, пан міністар наадварот, робіць закіды Інстытуту, што Інстытут не прыдзержаўся фармальнасьцей, якія вымагаюцца правіламі.

Але-ж самыя правілы, дык гэта тыя правілы, якімі кіраваўся эндэк Грабскі, а разумеецца, што сучасны ўрад, які адсунуў ад улады эндэкаў, павінен быў-бы заадно з іх тварцамі адсунуць тыя ўзаканеньні, якія асталіся пасьля іх, як цяжкая і забіваючая творчыя сілы Беларускага Народу спадчына. А тагды можна было-б сьцьвердзіць умелае кіраваньне сучасным урадам дзяржаваю і сьведчыла-б гэта аб разумным трактаваньні сучасных абставінаў адносна беларускага школьнага пытаньня.

Такая палітыка польскага ўраду, маючая на мэце толькі палянізацыю беларускіх зямель, раней ці пазьней павінна будзе збанкрутаваць, бо нацыянальная адраджэньне Беларускага Народу ёсьць ужо арганічна зьвязана з нашым народам. Ідэя нацыянальнага адраджэньня разьвіваецца ўжо натуральным парадкам і, затым ніякія, выдуманыя чужым урадам перашкоды, ня спыняць беларускага адраджэскага руху.

## Адказ п. міністра асьветы.

Яшчэ 6 кастрычніка Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры зьвярнуўся да п. міністра асьветы з уматываванай заявай у справе беларускага прыватнага школьніцтва. Паміж іншым у заяве было падана:

„Нямаючы зусім дзяржаўных беларускіх школ, дзякуючы палітыцы ўраду, беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры пачаў захады з мэтаю арганізацыі, у меру магчымасьці, прыватных беларускіх школ. На 1926-7 школьны год Інстытут падаў адпаведным школьным інспэктарам заявы на 15 (пасьля было падана больш заяваў) беларускіх школ. Дагэтуль ніводная з гэтых заяваў ня была прыхільна вырашана".

Далей у заяве паданы конкрэтныя факты ўсіх перашкодаў, што ставяць школьныя інспэктары. Заява заканчваецца такімі пастулятамі:

„У сувязі з вышэй паданай ветліва просім п. міністра:

1) аб распараджэньні з мэтаю неадкладна дазволіць распачаць навуку ў беларускіх прыватных школах, на якія паданы заявы, паводле далучанага сьпіску і аб загадзе з мэтаю шыбкага і прыхільнага вырашаньня новых заяваў на прыватныя беларускія школы; 2) аб скасаваньні распараджэньня, на аснове якога заявы на школы павінны быць аплачываны штэмплёвай аплатай і іншай у суме 20 зл., як нязгоднага з дэкрэтам Нач. Дзярж. з 1919 г.; 3) аб уплачэньні фармальнасьцяў пры складаньні заяваў на беларускія прыватныя школы, перадусім перастаць жадаць натарыяльнага пасьведчаньня подпісаў сяброў ураду Т-ва, якое стараецца аб канцэсіі і доктарскага пасьведчаньня аб прыдатнасьці школьнага будынку; 4) аб распараджэньні з мэтаю прызнаньня беларускіх вучыцялёў, якія акончылі перад вайной або ў часе сусьветнае вайны вучыцельскія сэмінарыі, або роўназначныя вучыцельскія курсы, або вытрымалі экзамен на вучыцеля пачатковых школ, за кваліфікаваных вучыцялёў, зусім прыдатных да працы ў прыватных беларускіх школах".

На гэтую заяву пасьля паўгоду Інстытут атрымаў ад п. міністра адказ ад 1.-IV такога зьместу:

„Цвярджэньне выражанае ў заяве, што нібыта цалкам ня было беларускіх дзяржаўных школаў, не адпавядае праўдзе, бо ўсюды, дзе істнуюць варункі вызначаныя ўставаю—заложаны пачаткавыя дзяржаўныя школы з навучаньнем у беларускай мове. Адносна выдаваньня канцэсіяў на адкрыцьцё прыватных пачаткавых школаў, міністэрства зазначае, што школьныя ўлады абавязаны вымагаць тарнаваньня абавязваючых правілаў асабліва адносна выкананьня ўмоваў устаноўленых у распараджэньнем ген. камісара Ўсходніх Земляў ад 11 кастрычніка 1919 г. (Ур. Дз. Мін. В. Р. і П. А. Нр. 12/13 поз. 1).

Невыкананьне абавязываючых правілаў пры захадзе на канцэсію Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры вымагае як неабходнасьць трэбаваць школьнымі ўладамі дадатковых выясьненяў і ўсправядлівеньняў, што спазьняе вырашэньне справы з віны самых пэтэнтаў. Для прыкладу ўспомніць належыць аб школах у Рудаўцы і Малым-Угрыне, на якія атрымала канцэсіі Т-ва Беларускае Школы ў Радашковічах, а паміма гэтага аб такіх самых канцэсіях стараўся Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, да якога школьныя ўлады безрэзультатна зьвярталіся некалькі разоў аб выясьненьні справы.

У справе вучыцельскіх сіл, прапанаваных у прыватныя школы, дык школьныя ўлады абавязаны засьцерагаць згодна арт. 117 канстытуцыі, каб вучыцялі ў прыватных школах адпавядалі вымаганьням уставы аб кваліфікацыі, бяспечнасьці дзяцей і лёяльных адносінаў да дзяржавы.

Жалабы датыкаючыя канкрэтных здарэньняў могуць быць разгледжаны індывідуальна, калі зацікаўленыя асобы зьвернуцца адпаведна і на часе да школьных уладаў адпаведных інстытуцыяў.

У справе жаданьня школьным інспэктарам у Стоўпцах аплаты ад заяваў і далучнікаў адносна канцэсыяў на прыватныя школы, дык дана адпаведнае выясьненьне, што заявы гэтага роду аплаце не падлягаюць.

Падпісаў міністар Добруцкі".

Як бачым, п. міністар асьветы адкінаў пастуляты Інстытуту, каб школьная адміністрацыя і далей не давала дазволаў на прыватныя беларускія школы.

*Наступны нумар „Сялянскае Нівы" выйдзе за тыдзень.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Саветы і Кітай.

Калі здарыўся выпадак у Пэкіне—рэвізіі савецкага пасольства кітайскімі ўладамі, дык увесь сьвет думаў, што на гэта Саветы зарэагуюць аружным выступленьнем. Але-ж, як відаць тым часам канчаецца гэты выпадак, на адкліканьні з Пэкіну савецкага пасла і толькі...

На зьездзе Саветаў у Маскве ў сваіх прамовах кіраўнікі Савецкага Саюзу заявілі, што капіталістычныя дзяржавы хацелі справакаваць вайну паміж Саветамі і Кітаем, але-ж гэта ім не ўдалося, бо мы жадаем толькі супакою.

### Спрэчкі куомінтангу і камуністых.

Кантонскі галоўнакамандуючы Чанг-Кай-Шэк сарваўшы добрыя адносіны са сваімі камуністымі, пачаў проці апошніх рэпрэсыі.

Вынікам гэтага ў Шанхаі здарылася аружная бойка. Хоць, як газэты пішуць, камуністычныя вайсковыя аддзелы адступілі, але-ж ясна, што яны ўсё ж такі ёсьць.

Чанг-Кай-Шэк узяўся чысьціць ад камуністых прафэсыянальныя саюзы, якія цалком ахопляны камуністымі, дык як відаць гэтая чыстка нанясе Кітайцам новыя раны, а кітайскаму вызвольнаму руху замешку.

### Кітай і іншыя дзяржавы.

У кітайскіх водах Ангельцы, Японцы, Амэрыканцы, Француза, Італьянцы, Гішпанцы, Партугальцы і Галанцы трымаюць вялікія аружныя сілы. Англія і Амэрыка выслалі новыя падмогі.

### Мобілізацыя ў Японіі.

У сувязі з парушэньнем экстэрыторыяльнасьці савецкага пасольства ў Пэкіне, Японцы чакаюць аружнага выступленьня Саветаў проці кітайскага буржуазнага ген. Чанг-Тсо-Ліна. А дзеля гэтага Японія мобілізуецца, каб прысьці яму на падмогу проці Саветаў.

### Сытуацыя ў Кітаі.

Гэтымі днямі ўзьнікла спрэчкі паміж кітайскі камуністымі і блізкімі да іх куомінтангам (паліт. партыя), якія супольнымі сіламі разбілі буржуазныя войска і амаль-што не ахапілі ў свае рукі ўвесь Кітай.

Вынікам гэтае спрэчкі сталася тое, што фронт Кантонцаў аслабіўся, дык працаўнікі Кантону перайшлі ў наступленьне.

### Фіаско канфэрэнцыі аб разаружэньні.

Міжнародавая канфэрэнцыя аб разаружэньнях, якая праводзілася ў Жэнэве ў справах абмежаваньня ўваружэньня адложана на невядомы час.

### Сплаў дрэва па Нёмане.

Ангельская фірма купіўшы 100.000 куб. мэтраў дрэва ў Польшчы, зьвярнулася да літоўскага ўраду з дамаганьнем пазваленьня сплавіць гэты лес Нёманам да мора ў Мэмэль. Літва хоць і неахвотна, але-ж згаджаецца задаволіць вымаганьні фірмы прадстаўніцы магутнае Англіі.

Польскія газэты відзяць у гэтым палітычныя поступы ў справе паразуменьня Польшчы з Літвой, але-ж літоўскія газэты катэгарычна пярэчаць гэтаму, кажучы, што Ангельцы проста з-за гандлёвае выгады хочуць сплавіць лес па Нёмане і толькі...

Усе ўладары забываюцца, што Нёман гэта беларуская рака.

### Літва.

Літоўскі Сойм выказаў няверу сучаснаму літоўскаму ўраду Вальдэмараса. Выказы няверы ўрад атрымаў ад прадстаўнікоў цэнтру і лявіцы літоўскага Сойму.

Урад падаўся ў адстаўку. Спадзяюцца, што ў Літве будзе абвешчана вайсковая дыктатура. Сойм распушчаны.

### Англія.

Ангельскія анархістыя Сако і Ванэці асуджаны на сьмерць і ў Чарльстоне гэты асуд выканаты.

На Белым моры разбіўся ангельскі карабель, на якім затанула 45 чалавек. Уратавалася зусім мала.

### Чэхаславакія.

На станцыі Брно-Мараўскае здарылася катастрофа. Ад спатканьня двух цягнікоў 7 чалавек забіта, 40 цяжка і 100 лёгка ранена.

* * *

Можа збрыдне мне доўга чакаць
І сачыць твае мілыя крокі,
Аглядацца на ўсенькія бокі,
Каб цябе найчасьцей спатыкаць...
І каб скончыць пэрыяд міражны
Напішу табе ліст невыразны.

Напішу, як у вечар між зор
Плаўна месяц срабрысты лунае,
Як у гаю чароўна сьпявае
Мілых птушачкаў звонкавы хор...
Ты манліва яго прачытаеш
І шапнеш: «Не мані, ты кахаеш».

* * *

Враг мой вѣчный, пора научиться
Вам кого-нибудь вправду любить.
*А. Ахматова.*

Трэ' парадзіцца можа з варожкай,
Мо' яна мне асьветліць той гай,
Дзе гуляеш ты вузкай дарожкай
І ківаеш мне пальцам «сюдай!..»
Мо' варожка парадзіць мне ціха,
Як схавацца ад бурнага ліха.

Што-ж варожкі: мне толькі здаецца..
Ўсё-ж паслухаць нямог-бы іх я;
Калі сэрца так міленька б'ецца
І нясецца, дзе постаць твая
Калыхаецца ў цені між дрэва,
Як у раю галюткая Ева.

* * *

Умѣеть такъ сладко рыдать
Въ молитвѣ тоскующей скрипки,
И страшно ее угадать
Въ еще незнакомой улыбкѣ.
*Анна Ахматова.*

Як разкелзана бура зімою
Рве і сьвішча ў начы між вугламі
І пужае равучай трубою
Бедных дзеткаў сабраных пры мамі,
Так страшэннай і мілай здаецца
Гэта бура, што цягне з сабою
Нас абое і дзіка зноў прэцца,
Каб схаваць нас ад сьвету за мглою.
А пасьля можа з нас засьмяецца...
І ня пры́ме за працу прызнаньня...
Ах, чаму мне ўсё гэтак здаецца,
Ці-ж у гэтым істота каханьня?...

* * *

Пасьвячаю М. Ш.

Сьцямнела і сумна на дворы;
Я берагам слаўнай Вултавы,
Дзе ветрычак вее ласкавы,
Іду ў пазаместныя горы.

І цёмна і сумна на дворы,
Жалобна плюскочуць тут хвалі,
Плюскочуць і недзе ў аддалі...
Канаюць як голас на моры.

Памалу ўваходжу на горы,
Хвалдуюцца побач узгоркі,
Далёка бліснулі дзьве зоркі
І зьнiклі у цёмным прасторы.

І ціха і млеўка на дворы;
Я сьпёрся на камень сьцюдзённы
І глянуў у бок паудзённы,
Дзе ярка сьвяціліся зоры.

У цёмна-таёмным прасторы,
Затуляным шэрай імглою,
Я воблік увідзеў той зоры,
Якую я бачыў з Табою.

*Фр. Грышкевіч.*

## СЯЛЯНЕ.

**Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

# НАВІНЫ.

**— Першы выпадак.** За мінулы тыдзень лічба безработных у Вільні зьменшылася на 10 чалавек.

Падаем гэта як першы выпадак, бо дагэтуль ад восені лічба безработных усьцяж павышалася.

**— „Народны Звон“.** Беларуская газэта „Народны Звон“, друкаваная лацінкай, якая асабліва часта пападала пад канфіскаты, перастала выходзіць па пастанове акружнага суду.

**— Лубіновы крэдыт.** Дзяржаўны Зямельны Банк вызначыў нейкую суму на выдаваньне пазычкаў земляробам у мэтах засеву няпрыгоднай зямлі лубінам. Асыгнавана на морг зямлі па 20—30 злотых.

**— На палянізацыю.** У Вільні адбыліся курсы для духоўнікаў быўшых праваслаўных перайшоўшых на вунію. Праслухала курсы 15 чалавек.

Як бачым, дык на гэта ўрад ахвотна траціць сродкі, а як на беларускую школу, дык нічога...

**— Прыклад глупоты.** „Dziennik Wileński“ друкуе: „згодна інструкцыі атрыманай з Менска б. „гуртковцы“ агітуюць сярод сялян аб тым, каб сяляне дамагаліся ад ураду грашовай дапамогі для пацярпеўшых ад неўраджаю“. Гэтую агітацыю „Dz. W.“ называе процідзяржаўнай. І вось, калі-б на'т і была гэтакая агітацыя, дык дзе-ж тут антыдзяржаўнасьць?

**— Брэдні Обста.** „Dzieńnik Wileński“ яшчэ падаў вестку аб тым, быццам пры рэдакцыі „Сял. Нівы“ згодна прыказу К. П. З. Б. арганізавана Бюро па збору ахвяраў для запамогі арыштаваным камуністым і „Грамадаўцам“.

Рэдакцыя „Сял. Нівы“ прыймае ахвяры для палітычных вязьняў Беларусаў з сваей ініцыятывы, а весткі падаваныя Обстам зьяўляюцца проста правакацыяй.

**— „Беларускі Дзень“.** „Беларускі Дзень“ польская газэта ў беларускай мове адзначылася добрым выкананьнем сваіх абавязкаў, бо польская газэта „Głos Prawdy“ падхапіла ідэю „Беларускага Дня“ аб згодным сужыцьці Беларусаў з Палякамі і піша, што беларускае грамадзянства вельмі імкнецца да гэтага.

Аднак газэта „Głos Prawdy“ павінна сабе прыпомніць, што „Беларускі Дзень“ не выказвае думак беларускага грамадзянства.

## Як упісацца у Беларускі Сялянскі Саюз.

Падпішчык, які добра зразумеў, што Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца партыяй, якая запраўды адважна бароніць інтэрэсы нашага сялянства, павінен неадкладна ўпісацца ў свой Саюз. З гэтае мэтай трэба паслаць у Цэнтральны Камітэт аткрытку (Вільня, Завальная 6—5) з просьбай прыслаць бляныкеты заявы і анкеты, інструкцыі і праграму.

## Грамадзяне, Беларусы!

У в. Рудаўцы, Слонімскага пав., існуе прыватная Беларуская школа. У сувязі з цяжкім матэр'яльным палажэньнем сялянства, школа вельмі бедная, а таксама вельмі бедныя і дзеткі, што ходзяць вучыцца.

Сяляне ўсімі сіламі сёлета хочуць крыху адбудавацца, дык на гэта патрацілі апошні пуд хлеба, а леташні ўраджай ведама які. Вясна нясе з сабою голад. Ідуць Вялікодныя сьвяты. Дзеткі нашае школы ня толькі ня будуць бачыць пірага, але-ж многія ня будуць мець на'т кавалка хлеба. Хочацца, каб родная школа, як любячая матка, хоць крыху зьменшыла іх біду і каб дала магчымасьць весялей правясьці Вялікія дні і гэтым яшчэ болей прывязаць іх сэрцы да роднае школы.

Зварачваемся да Вас з просьбай злажыць ахвяры на «чырвоеная яечка» для дзетак нашае школы, якое думаем наладзіць на другі дзень праваслаўных сьвятаў.

Ваша ахвяра даставіць многа радасьці як дзеткам, так і бацьком і рэхам пракаціцца далёка па нашай старонцы і пабадзёрыць нашых суседзяў у барацьбе за родную школу.

Афяры можна складаць у рэдакцыю «Сялянскае Нівы» або проста ў школу: pocz. Jeziornica, w. Rudawka Białoruska szkoła, naucz. St. Towłajowa.

